


*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі! Францішак БАГУШЭВІЧ*

# НАША СЛОВА

№ 17(27) ● 12—18 ЧЭРВЕНЯ 1991 г. ● Штотыднёвік Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны
Кошт 10 кап. (па падпісцы — 5 кап.)

## 14—15 ЧЭРВЕНЯ У МІНСКУ — ДРУГІ З'ЕЗД РЭСПУБЛІКАНСКАГА ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ. САРДЭЧНА ВІТАЕМ ДЭЛЕГАТАЎ З'ЕЗДА!

## Поступ тыдня

Працягвае сваю работу сесія Вярхоўнага Савета рэспублікі. Абмеркаваны праграма па стабілізацыі эканомікі і сацыяльнай абароне насельніцтва, праваы рэжым надзвычайнага становішча і іншыя важныя праблемы.

А тым часам у Мінску падняліся амаль у два разы рознічныя цэны на агуркі і памідоры. Мяркуецца, што з верасня ў такой жа прапорцыі падаражэюць бульба, морква і буракі.

Затое саюзны парламент прыняў рашэнне павысіць зарплату членам урада і дэпутацкія выдаткі (ад 200 да 300 рублёў). Знаёмыя інфляцыйныя працэсы: знізу — павышэнне цэн, зверху — павышэнне зарплаты. Што ж, можна і далей працягваць дэпутацкія дыскусіі...

* * *

Міністэрства народнай адукацыі Беларусі абмеркавала работу ўстаноў і органаў кіравання народнай адукацыяй Гродна па рэалізацыі Закона аб мовах. Адзначана, што пакуль не толькі бацькі, але і самі настаўнікі, кіруючыя работнікі добра не валодаюць беларускай мовай і слаба карыстаюцца ёю. Сярод намечаных міністэрствам неадкладных мер — перавод справодства ў сістэме народнай адукацыі вобласці на родную мову і пераабсталяванне там пішучых машынак на беларускі шрыфт.

* * *

Па выніках мінулага года ў капітальным будаўніцтве аб'яўлена, што беларускую вёску ў параўнанні з горадам зноў абдзялілі: на тысячу жыхароў там узведзена жылых дамоў у 1,7 раза меней, прычым за асабісты кошт сяльчан — усяго 165 тысяч квадратных метраў, тады як у шасцідзесятыя гады будавалася 1.400 тысяч, у сямідзесятыя — 800 тысяч, у васьмідзесятыя — 240 тысяч квадратных метраў. Значна недададзена вёсцы таксама бальніц, школ, клубаў.

* * *

«Звон душы» — так названа дабрачынная мастацкая выстаўка, якая адкрылася ў Магілёве. На ёй прадстаўлены работы краязнаўчага музея і царквы Трох Свяціцеляў Магілёва. Атрыманыя сродкі пойдуць на аднаўленне помнікаў архітэктуры.

* * *

Хрысціянска-дэмакратычнай злучнасцю Беларусі названа новая партыя на яе нядаўняй устаноўчай канферэнцыі. Абраны кіруючыя структуры ХДЗБ, зачытаны зварот да дэлегатаў спрыяць адраджэнню на Беларусі кальвінісцкай царквы.

* * *

14 чэрвеня 1991 года у памяшканні Белдзяржфілармоніі адбудзецца канцэрт беларускай песні. Пачатак канцэрта ў 20 гадзін. Уваход вольны.

*Ніл ГІЛЕВІЧ*

## «КАБ НЕ ЎМЁРЛІ...»

*(Выступленне на Міжнародным кангрэсе беларусістаў)*

Мы з'яўляемся сведкамі і ўдзельнікамі падзеі сапраўды незвычайнай у гісторыі беларускага народа. Упершыню, нарэшце, здзяйсняем намер зрабіць тое, што іншыя славянскія народы зрабілі даўно: мы ўтвараем Міжнародную асацыяцыю беларусістаў, дзеля чаго і склікалі гэты ўстаноўчы кангрэс. Тое, што мы парупіліся пазней за іншых, у саміх нас, беларусаў, напэўна, выкліча, як і заўсёды, гаркавата-іранічную ўсмешку, маўляў, а калі і дзе мы паспяшаліся раней за іншых, хіба такое магчыма? Адкажу без іроніі: магчыма! І ў нашай адзінаццацівяковай гісторыі здаралася не раз. Прыгадайма навуковы і творчы подзвіг, здзейснены ўсходнеславянскім першадрукаром беларусам Францішкам Скарынам. Прыгадайма Статут Вялікага Княства — гэты мудры звод законаў, роўнага якому ў сэнсе гуманнасці і справядлівасці бадай ці знала ў тагачаснай Еўропе якая-небудзь іншая дзяржава.

Мы шчыра радуемся і ганарымся, што колькасць прыхільнікаў беларускай мовы, літаратуры, культуры за межамі рэспублікі расце, што ў многіх і блізкіх і далёкіх краінах створаны або ствараюцца асацыяцыі беларусістаў, што ўклад Беларусі ў агульначалавечую духоўную скарбніцу будзе такім чынам прызнавацца на ўсё шырэйшых абсягах планеты. Мы гэтак жа шчыра ўдзячныя нашым добрым і верным сябрам за іх любоў і клопат — тым больш удзячныя, што яны багата ведаюць, гаворачы словамі Багушэвіча, «аб нашай долі-нядолі», аб няпростым, пакутлівым і трагічным лёсе народа, з якім звязалі свае навуковыя і творчыя інтарэсы. Мушу наўмысна падкрэсліць гэты момант — наконт нашай асаблівай удзячнасці — таму, што прадмет іх даследчыцкай або мастакоўскай цікавасці, так бы мовіць, нявыйгрышны, невыгодны. Трэба мець мужнасць, каб займацца народам і яго духоўнай культурай, яго мовай, калі гэтаму народу, пачаўшы колькі стагоддзяў назад і да гэтага часу, і сёння адмаўляюць у праве на самастойнае існаванне, прарочаць страту свайго ўласнага аблічча і не абяцаюць ніякай гістарычнай перспектывы. Зрэшты, і сапраўды: якая можа быць у нас перспектыва пасля Чарнобыля? Кожны дзень нам вырысоўвае яе, гэту перспектыву, усё больш выразна. Можа, сённяшнія нашы дабрадзеі якраз гэта і маюць на ўвазе? Наўрад ці можна назваць яшчэ якую-небудзь цывілізава-

*Заканчэнне на 2-й стар.*




*Васіль БЫКАЎ*

## БЕЗ ПАЛІТЫЧНАЙ НЕЗАЛЕЖНАСЦІ НЕ ВЫЖЫЦЬ

*(Выступленне на Міжнародным кагрэсе беларусістаў)*

БЕЛАРУСЫ — мабыць адна з самых няшчасных нацый Еўропы. Не зважаючы на ўсе нашы зусім неблагія, Богам дадзеныя чалавечыя якасці, мы дагэтуль не маем таго, што варта мець кожнай нацыі свету, дзеля чаго, па сутнасці, яна і існуе пад небам. І ўсё таму, што з вялікага капрызу гісторыі мы ўпусцілі свой нацыянальны цягнік і апынуліся ў ролі вечных паязджан, пазбаўленых прыстойнага лёсу, здатнага прытулку дзяржаўнасці. Можа, толькі цяпер гісторыя дае нам пэўны і надта сумніцельны шанс, і ўсё залежыць ад таго, ці пакарыстаемся мы ім. Ці ён у каторы раз выслізне з нашых рук? Зноў, як і заўжды, найбольшыя спадзяванні на нашу мову — гэты галоўны нацыянальны набытак, наша гістарычнае апірышча. Нездарма яе так вынішчалі стагоддзямі, забаранялі, аплёўвалі, адвучвалі ад яе цэлыя пакаленні. У імперыі патрэбна была адна імперская мова. Але калі мы нацыянальна паншчаныя, класава раз'яднаныя, спаскуджаныя шматгадовай вайной, нешта ўсё ж значым у сусветнай суполцы народаў, дык найперш праз гэтую нашу мову. Без яе ад нас не засталося б і следу, як не засталося яго ад колішніх тутэйшых. Мова верна служыла народу ў добры і благі час, ратавала яго існаванне, ніколі не здраджвала яму. Гэта ёй нярэдка і няўдзячна здраджвалі на Беларусі, за што заўжды былі бязлітасна караны Богам і гісторыяй. На гэтай мове праз пэўную долю маны, пустаслоўя створаны аднак самы светлы і высакародны фальклор, напісана немалая літаратура. І сёння я рады вітаць у гэтай зале нашых братоў у выгнанні, а таксама нашых знакамітых паслоў, паўнамоцных прадстаўнікоў Беларушчыны ў розных краінах свету. Гэта іх намаганнямі народы пазналі Беларусь і беларусаў, высакароднасць нашага сэрца, наш бясхітрасны розум і наш неспакойны боль. Так, менавіта боль — гэта наш гістарычны спадарожнік, які ні на год не пакідаў нас у мінулым, не пакідае нас і зараз.

У нашай імперыі даўно ужо няма шчаслівых народаў. Але беларусы, як ужо сказана, можа самыя няшчаслівыя сярод іх. Бо не зважаючы на гаманкую імітацыю рэфармістаў, на Беларусі нічога не мяняецца, па-ранейшаму нашай афіцыйнай рэлігіяй застаецца сацыялістычная дэмагогія, наш парламент не болей чым гаманкая сходка камуністаў, занепакоеных адзінай праблемай: утрыманнем улады. У нас беззваротна паншчана сялянства — гэты традыцыйны асяродак беларускасці. Наш рабочы клас робіць толькі першыя няўмелыя спробы ўстаць з каленяў, а наша нацыянальная інтэлігенцыя ў масе сваёй — тыповае ўвасабленне лакейскага канфармізму. Менавіта ў гэтых варунках беларускі народ наблізіўся да краху нацыянальнае культуры і дзяржаўнай эканомікі. Наперадзе нас чакае татальны заняпад і голад з усімі яго жахлівымі наступствамі. Перспектывы выжывання нацыі, густа засыпанай да таго ж радыёнуклідамі, абсалютна няпэўныя, калі не зусім змрочныя. У гэтакіх варунках ашчаднікам нашай нацыянальнай існасці можа стаць беларуская дыяспара, выгнанне, дзе высілкамі беларускіх патрыётаў можа захавацца наш нацыянальны культурны генафонд. У нас на Беларусі то ўжо немагчыма: паншчыцца, калі не пад кіраўніцтвам Камуністычнай партыі, якая не паспела зрабіць тое ў свой час, дык ва ўмовах рыначнай эканомікі.

Гістарычны вопыт паказвае, што зберагчы сябе і сваю існасць нацыя здольна толькі ва ўмовах абсалютнага суверэнітэту. Дзяржаўны суверэнітэт, поўная культурная самастойнасць і палітычная незалежнасць — гэта адзіная магчымая форма нацыянальнага выжывання ў сучасных савецкіх умовах. Без поўнай палітычнай незалежнасці нацыя з такім аслабленым у нацыянальных адносінах менталітэтам выжыць не можа. Таму зусім наіўнымі, калі не яўна спекулятыўнымі з'яўляюцца намеры ўсіх нашых псеўдапатрыётаў, якія цешаць сябе ілюзіямі дамагчыся захавання беларушчыны метадам прыручэння да яе «правільнай» «нескажонай» камуністычнасці, бальшавізму з ласкавым чалавечым тварам. Чалавецтва добра ўжо ўведала, які ў бальшавізма твар, і нідзе той твар не мяняецца. Спадзяванняў у нас няшмат, і можа апошняя наша надзея на бессмяротную сутнасць народа...

*Першы намеснік Старшыні Вярхоўнага Савета БССР Станіслаў Станіслававіч Шушкевіч наведаў штаб-кватэру Рэспубліканскага Таварыства беларускай мовы ў хуткім часе пасля таго, як ля ўваходу з'явілася знакамітая шыльда — арыгінальны твор беларускага мастака Міколы Купавы. У часе рэферэндуму аб захаванні Саюза дзверы ТБМ былі залеплены агіткамі ваяўнічых прыхільнікаў таталітарнага «адзінства», а шыльда ўкрадзена. Злачынцы не выяўлены да гэтага часу.*

*Нататкі публіцыста Анатоля Сілянкова аб гутарцы з вядомым беларускім дзяржаўным дзеячам і вучоным С. С. Шушкевічам чытайце на 3 старонцы газеты.*

# «КАБ НЕ ЎМЁРЛІ...»

**(Выступленне на Мінародным кангрэсе беларусістаў)**

*Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.*

ную, з больш як тысячагадовай гісторыяй нацыю, якой бы столькі разоў прадказвалі гібель і сыход з гістарычнай арэны, як нам, беларусам. І не толькі заўзятыя ворагі-асімілятары, але і тыя, што былі настроены да беларускага народа зусім дружалюбна, глядзелі на нас са спагадай і спачуваннем. Нагадаю толькі адзін прыклад. Яшчэ ў сярэдзіне мінулага стагоддзя, калі царскі ўрад забараніў карыстацца беларускай мовай у касцёлах, вядомы беларуска-польскі навуковец і грамадскі дзеяч Адам Кіркор са шкадаваннем пісаў: «Беларускаму народу больш не зазвініць яго родная мова, і ён сам, як народ, прапаў». Гэта — роспачнае пачуццё сябра. А колькі было зроблена прароцтваў злрадных!.. Нямала іх робіцца і сёння, хіба што ў яшчэ большым раздражненні і азлобленасці ад таго, што прароцтвы ніяк не здзяйсняюцца. Нямудрыя, зусім нямудрыя гэтыя чорныя крумкачы-«прарокі»: маглі б ужо і зразумець, што іх прадказанні не здзейсняцца ніколі. Ніколі! З асаблівай упэўненасцю гэта хочацца падкрэсліць сёння, калі перабудова, як бы цяжка яна ні ішла, акрыліла і падмацавала нашы адвечныя запаветныя спадзяванні, наш непазбыўны клопат. Міжволі ўспамінаюцца словы, якія, неўзабаве пасля першай рэвалюцыі ў Расіі, з адчуваннем вялікага абнаўлення, вялікага пералому ў гістарычным лёсе беларусаў, сказаў наш выдатны этнограф Мікалай Нікіфароўскі: «Не з'елі нас раней, цяпер і подаўна не з'ядуць, калі мы дакрануліся да матухны-зямлі». Так, можам спакойна паўтарыць услед за гэтым слаўным сынам бацькаўшчыны: цяпер, калі мы зноў дакрануліся да роднай матухны-зямлі, мы будзем жыць! І натуральна, што мы хочам, каб усе нашы сябры, беларусісты з іншых краін і зямель, і тыя, што прыехалі на кангрэс, і тыя, каму не выпала прыехаць, таксама пранікнуліся гэтым нашым настроем, гэтаю нашай верай, гэтым нашым энтузіязмам,— хочам, бо ўпэўнены, што гэта і ім дадасць сілы і натхнення ў працы. Беларусь уступае ў новую паласу свайго гістарычнага развіцця,— гэта неадменны факт, усведамленне якога, не сумняваюся, хутка стане ўсенародным тут, у самой рэспубліцы, і ўсеагульным у свеце.

Аднак жа вернемся да пытання аб нашай удзячнасці тым, што звязалі сябе, свой творчы лёс з Беларуссю. Паважаныя калегі, пытанне гэта зусім не другараднае, і я хацеў бы, каб мы, гаспадары сённяшняй сустрэчы, усёй душой яго адчулі і глыбока прадумалі. І каб яшчэ раз успалыхнулі ад сораму, што нас, надзеленых ад прыроды пачуццём удзячнасці, нярэдка прымушалі быць няўдзячнымі, апынацца ў становішчы людзей элементарна нявыхаваных, і што мы мірыліся з гэтаю ганьбай і цярпелі яе. Адкуль ішоў гэты гвалт над нашымі прыроднымі чалавечымі пачуццямі, хто пазбаўляў нас нават права сказаць добрым людзям «дзякуй» — вядома: узаконеная і ўвасобленая ў дзяржаўных чынах нянавісць да беларускай мовы і культуры. Мы, старэйшыя з ліку нацыянальна свядомых працаўнікоў, усё жыццё пражылі ў акружэнні гэтай нянавісці, гэтай хамскай пагарды, гэтых цынічных насмешак і здзекаў. Незайздросная, прызнаемся, доля, нялюдскі і жорсткі час!

Якраз у тую пару Пімен Панчанка, пагля дзеўшы і паслухаўшы аднойчы нашых высокачыноўных дзяржаўнікаў, сказаў прыкладна так: цяпер я ведаю, што трэба, каб стаць у Беларусі вялікім начальнікам: апрача іншых спецыфічных якасцей, абавязкова трэба мець і лютую нянавісць да беларускай мовы. Вядома, начальнікі мяняюцца, многія ўжо набываюць і павагу да роднага слова. Будзем спадзявацца, што само жыццё давядзе гэтыя прыемныя перамены да таго становішча, калі ўсе нашы дзяржаўныя асобы будуць адчуваць сябе адказнымі за лёс беларускай мовы і культуры як перад законам, так і перад уласным сумленнем. Але гэта здарыцца тады, калі Беларусь стане сапраўды суверэннай дзяржавай. Сёння яе суверэнітэт фіктыўны, папяровы, і яе ўрад таксама папяровы, пазбаўлены рэальнай самастойнай улады, і нават пры вялікім жаданні ён не можа стварыць умоў, якія б забяспечылі свабоднае развіццё беларускай мовы і культуры. Каб такія ўмовы сталі рэальнымі — трэба, каб стала рэальнай наша дзяржаўная самастойнасць.

Разам з тым, нават і ў сённяшніх умовах, ва ўмовах залежнасці, урад мог бы больш рашуча праводзіць моўную палітыку ў рэспубліцы ў інтарэсах народа, імем якога рэспубліка названа. І калі гэтага не відно, то вінаваты не толькі ўрад, але і ўсе мы таксама, бо не дарэмна ж было некім разумным сказана: кожны народ мае той урад, якога ён заслугоўвае.

Мы ўсё плачамся і плачамся на сваю горкую долю — а трэба не плакацца, а дзейнічаць, трэба змагацца, трэба актыўна ісці ў наступ, расшыраць заваёвы, замацоўваць і абараняць дасягнутыя рубяжы.

Мы марым і лятуценім, што нешта зробіцца само сабой, пры дапамозе нейкай чароўнай палачкі,— а трэба не лятуценіць, а дзейнічаць, трэба самааддана і самаахвярна, не шкадуючы сіл і часу, працаваць і выкладацца ў гэтай працы даастатку.

Мы клюём на прыманку падкінутых нам хітрых падступных ідэй і тэорый, а трэба перш за ўсё думаць самім, думаць цвяроза і глыбока аб тым, хто мы і што мы на гэтай планеце, і якім павінен быць наш уласны шлях з увагі на асаблівасці нашай гісторыі, нашага нацыянальнага характару і менталітэту.

Мы займаемся ганебным самаедствам, мы прадаём — як гэта было ў час выбараў народных дэпутатаў — лепшых, свядомых сыноў і дачок нацыі, замест таго, каб усялякі дапамагаць ім, падтрымліваць, гуртавацца вакол іх і ісці да аднае вялікае мэты побач, пляча да пляча, локаць да локця.

Мы нярэдка хвалімся нашай прыроднай беларускай талерантнасцю, дэмакратычнасцю, верацярпімасцю, але сённяшняя атмасфера нашага грамадска-палітычнага жыцця, на вялікі жаль, не сведчыць на карысць гэтага,— наадварот: ні дэмакратычнасці, ні цярпімасці нам не хапае, нават у дачыненні да патэнцыяльных спадарожнікаў і аднадумцаў. Мы не хочам лічыцца з тым, што ідзе нялёгкі і балючы працэс перавыхавання многіх і многіх, можа, соцень тысяч і мільёнаў людзей, у тым ліку і нашай наміанальна беларускай, а на самой справе толькі прапісанай у Беларусі інтэлігенцыі. Ідзе працэс пакаяння, і гэта пакаянне адбываецца не абавязкова на людной плошчы і са стуканнем кулаком у грудзі, яно можа мець месца і ў начной цішыні, калі чалавек сам-насам думае пра свой лёс глыбока і шчыра. Трэба верыць у пакаянне чалавека і не адрынуць нікога, хто сёння хоча і здольны сумленна паслужыць беларускай навуцы і культуры.

Паважаныя калегі! Наш абавязак — шанаваць, цаніць і падтрымліваць усіх сяброў Беларусі, беларускай мовы, літаратуры, мастацтва і культуры, дзе б яны ні былі, ведаць і не забываць кожнага з іх, памагаць ім у іх вялікай самаахвярнай рабоце па прапагандзе і папулярызацыі духоўных скарбаў нашага народа, помнячы, што і ад кожнага з іх залежыць, як паспяхова будзе адбывацца наш выхад у вялікі свет, а значыць — і як паспяхова будзе ісці працэс нашага нацыянальнага адраджэння.

Пры гэтым будзем помніць, што самая лепшая наша дапамога замежным сябрам-беларусістам — гэта паспяховае вырашэнне нашых нацыянальна-культурных праблем тут, у Беларусі, гэта далейшае нарошчванне і яднанне нацыянальна-патрыятычных сіл у рэспубліцы, гэта наша плённая праца на ніве беларускай асветы і навукі, мастацтва і культуры. Ёсць пільная неабходнасць гаварыць пра павышэнне прафесійнага ўзроўню ўсёй нашай працы. Прафесійнага і, я дадаў бы, дзяржаўнага. Многае ў нас, будзем казаць шчыра, робіцца яшчэ на самадзейным узроўні, многае яшчэ гаворыць аб тым, што не пераадолена псіхалогія духоўнай правінцыі, культурна-мастацкай перыферыі. Шырокім колам нашай грамадскасці, у тым ліку навуковай і творчай, яшчэ вельмі не хапае пачуцця нацыянальнай годнасці, усведамлення, што мы, беларусы, беларускі народ — гэта асобны духоўны свет, і што цэнтр гэтага духоўнага свету — тут, на нашай роднай зямлі, а не дзе-небудзь на ўсход ці на захад, на поўдзень ці на поўнач ад яе. Трэба рашуча пазбаўляцца гібельнай для нас псіхалогіі жыхароў «северо-западного края», якая прышчэплівалася нам вось ужо роўна два стагоддзі і з якою мы ніколі не здабудзем духоўнага, а значыць і эканамічнага і палітычнага суверэнітэту. Між тым у нас ёсць такія высокія ўзоры свядомага служэння Бацькаўшчыне — служэння таму, «каб не ўмёрлі».

Янка Купала і Якуб Колас, Максім Багдановіч і Максім Гарэцкі — абмяжуюся толькі галіной літаратуры і толькі гэтымі чатырма вялікімі постацямі — нам, наследнікам сваім, далі прыклад, па-першае, сапраўды дзяржаўнага, па-другое — сапраўды культурнага, на сусветным узроўні, думання і разумення свайго народа, яго гістарычнага лёсу, яго шляху да лепшай будучыні. Можа быць, у гэтым і наша шчасце, і наш паратунак, што ў нас заўсёды былі людзі-маякі, людзі-светачы, людзі-волаты, на чыю дзяржаўную і чалавечую мудрасць, на чый мастакоўскі або навукова-даследчыцкі талент можна было арыентавацца і абапірацца. На вялікі жаль, не ўся іх творчая спадчына сабрана, выдадзена і належным чынам прапагандуецца, а ў дачыненні да многіх з іх трэба сказаць, што мудры плён іх творчасці яшчэ наогул не даступны шырокім колам насельніцтва, у тым ліку, вядома ж, і нашым сябрам — замежным беларусістам. О, колькі слаўных імён нам яшчэ трэба вярнуць з небыцця, узвысіць і паказаць свайму народу і свету ва ўсёй іх веліччы і бляску! Не стану тут гэтыя імёны называць, бо, на абсягу гісторыі ад Кірылы Тураўскага і да нашых дзён, іх вельмі-вельмі шмат, іх столькі, што нельга не прасякнуцца радасным прадчуваннем, якая вялікая, прыемная і самаахвярная праца ўсіх нас чакае!

Вось і давайце ж браць прыклад з іх. Давайце следаваць іх мужнасці і мудрасці, іх нястомнасці і самаахвярнасці, іх чалавекалюбнасці і дэмакратызму. Хай нас ніколі не пакіне тая высокая вера, якая свяціла ім і вяла іх наперад. Найвялікшы і найслынны сярод іх яшчэ ў 1914 годзе пісаў: «Будзіцца самапачуццё народнае, падымае старонка наша вочы к сонцу і распраставае свае магучыя плечы. Мілаванне свайго роднага крова, сваёй адзінай бацькаўшчыны Беларусі бярэ верх над адступніцтвам і прадажніцтвам сябе ў чужую няволю. Калі зірнем мы на тое, што за некалькі год зроблена намі, беларусамі, над паднятым свайго нацыянальнага багацтва, то адно толькі душа можа радавацца. І ўсё гэта робіць сам народ — ці сваей шчырай працай для Бацькаўшчыны, ці сваімі запрацаванымі капейкамі... Мы не знаем ні казённых падачак, ні купленых працаўнікоў. Працуем для ідэі і будуем самі сабе новае, лепшае жыццё.

Дык працуйма ж і далей! Сейма на роднай зямельцы здаровыя зярняты праўды, брацтва і свабоды, будзіма жывога народнага духа з магутным клікам: к сонцу і праўдзе! Будзем мець буйны ўраджай і багатае жніво!»

Даўно гэта было сказана, а гучыць так, як бы вырвалася з душы паэта толькі што, сёння, і адрасавана нам з вамі. Прымем жа гэты купалаўскі запавет да сэрца і — у добры час за работу!

# ЗДАБЫТКІ І СПАДЗЯВАННІ

**Напярэдадні II з'езда Рэспубліканскага Таварыства беларускай мовы мы звярнуліся да старшынь камісій пры ТБМ з пытаннямі:**

**1. Што зроблена вашай камісіяй за час пасля першага з'езда?**

**2. Якія надзеі вы ўскладаеце на II з'езд Таварыства?**

## Барыс САЧАНКА, старшыня камісіі па сувязях з суайчыннікамі за межамі рэспублікі і СССР

**1. На жаль, яны не такія значныя, як хацелася б. Удалося ўключыць у Дзяржаўную праграму па ажыццяўленню «Закона аб мовах у БССР» спецыяльны пункт аб аказанні дапамогі ўсім беларусам, што жывуць за межамі рэспублікі і Саюза ССР і якія жадаюць вывучаць беларускую мову, не парываюць з Беларуссю сувязі. Другое дасягненне — удалося не толькі выявіць многія большменш значныя асяродкі пасялення беларусаў, але і навесці з імі некаторыя кантакты, утварыць суполкі ТБМ. Зараз яны ёсць у ЗША, Канадзе, Англіі, Аўстраліі, Італіі, Польшчы, на Украіне, Расіі, Літве, Латвіі, Эстоніі, Карэліі, Казахстане... Усе без выключэння асяродкі беларусаў патрабуюць не толькі маральнай падтрымкі, але і рознабаковай дапамогі — у падручніках, настаўніках, творах мастацкай і гістарычнай літаратуры, слоўніках і г.д. Наша ж Таварыства пакуль што беднае, знаходзіцца ў стадыі станаўлення. Добра было б арганізаваць пастаяннадзейныя курсы, дзе б кожны беларус, які жыве далёка ад сваёй спрадвечнай Бацькаўшчыны, мог бы ўдасканаліць свае веды ў мове, мог бы вывучыць сваю гісторыю. Ды і падарожнічаць па Радзіме сваіх продкаў яму не шкодзіла б, сустрэцца з самымі рознымі людзьмі, пачуць сапраўдную жывую беларускую мову...**

**2. Надзеі, што з'езд нешта зменіць у лепшы бок па бытаванню беларускай мовы малыя. Закон, які з такой цяжкасцю быў прыняты, ігнаруецца перш за ўсё дзяржаўнымі структурамі, пачаўся як бы сабатаж па яго выкананню, адкрыты і патаемны. Друк амаль не асвятляе на сваіх старонках чаргову «беларусізацыю»... Больш таго, з'явіліся ў некаторых выданнях проста такі зневажальныя, хамскія ў адносінах да нашай мовы і нашага народа выступленні, як, напрыклад, галоўнага рэдактара «7 дней» А. Пранішнікава... З'езду трэба рэагаваць... Становішча з беларускай мовай у рэспубліцы, асабліва сёння, калі мы ўступаем у рынак, проста катастрафічнае. Камандна-адміністрацыйнымі мерамі яе спярша выжылі адусюль, а цяпер кожны сам сабе гаспадар, што хачу, тое і раблю. Нельга ж, каб недавучкі і шавіністы навязвалі народу свае погляды, дыктавалі нам, беларусам, як жыць і будаваць сваю будучыню, сваё шчасце.**

## Анатоль КЛЫШКА, старшыня камісіі па культуры мовы

*1. З верасня таго года часопіс «Маладосць» у кожным нумары друкуе самавучак беларускай мовы. Падрыхтаваны і выйдзе ў наступным годзе ў выдавецтве «Вышэйшая школа» Беларуска-польскі размоўнік.*

*Камісіяй цяпер збіраецца матэрыял па найбольш частых памылках, каб на падставе гэтага выдаць пэўныя рэкамендацыі для работнікаў друку.*

*Член камісіі Алесь Камароўскі ўзяўся за складанне зборніка з парассыпаных па розных выданнях найбольш вартых матэрыялаў, прысвечаных культуры мовы.*

*Камісія пачала наладжваць сустрэчы з рэдакцыйнымі калектывамі. Нядаўна адбылася гаворка ў рэдакцыі «Чырвонай змены». У бліжэйшы час мяркуюцца сустрэчы з супрацоўнікамі «Піянера Беларусі», Беларускага радыё.*

*Члены камісіі, асабліва Уладзімір Содаль, Валянцін Рабкевіч, Кастусь Цвірка, часта выступаюць па пытаннях культуры мовы на сустрэчах з сябрамі ТБМ.*

*На парадку дня арганізацыя тэлефоннага дарадчыка па культуры мовы, а таксама рэспубліканскага конкурсу для беларускамоўных газет «Дзень без памылак». Але гэта, апроч усяго, упіраецца ў грошы. А іх няма.*

*2. Мяне асабліва абураюць лапікі беларускай мовы ў так званых беларуска-рускіх газетах. Разгорнеш «Добры вечар» і толькі малюсенькія ўкрапіны роднай мовы. А на рэкламнай чацвёртай старонцы ўвогуле нічога не сустрэнеш не беларускай мове, хіба апроч радка: «Галоўны рэдактар Міхась Расолька»... Як бы ніхто з беларусаў нічога не купляе, не прадае і тэлебачанне не глядзіць, і ў кіно не ходзіць, і не для іх гэтая рэклама, аб'явы... З'езду трэба рашуча выказацца пра гэта. А на з'езд не спадзявацца трэба, а рабіць, як кажа французская прымаўка: рабі, што можаш, і хай будзе, што будзе.*

## Зміцер САНЬКО, старшыня выдавецкай камісіі

**1. Набыткі выдавецкай камісіі даволі сціплыя: выйшаў адзін выпуск «Беларускай навуковай тэрміналогіі» (Г. Сяржаніна «Грыбы»), знаходзіцца ў друку «Падручны расейска-крыўскі (беларускі) слоўнік» В. Ластоўскага, які, трэба спадзявацца, дэлегаты з'езда змогуць ужо набыць, на стадыі падрыхтоўкі шэраг іншых выданняў. Мне не хацелася б апраўдвацца тым, што нашая камісія самая маладая (яна створана ў пачатку 1990 года). Мабыць, найболей спрычынілася да гэтакіх сціплых поспехаў агульная сітуацыя ў нашым грамадстве і ў эканоміцы.**

**2. Улічваючы інертнасць нашага грамадства ў моўным пытанні, цяжка чакаць якіх-колечы радыкальных змен з беларускай мовай у рамках наяўных палітычных структур. Тым не менш спадзяюся, што другі з'езд ТБМ будзе садзейнічаць кансалідацыі нацыянальна свядомых сіл, паспрыяе актывізацыі культурна-асветніцкай працы.**

## Мікола КУПАВА, старшыня камісіі па зрокавым і гукавым афармленні жыццёвага асяроддзя

1. Наша камісія займаецца ўсім тым, што датычыць гукавой і зрокавай інфармацыі. Дамагаемся, каб усе шыльды, рэклама ў горадзе былі афармлены на нармальнай беларускай мове. Займаемся падрыхтоўкай і выпускам нацыянальнай сімволікі і сімволікі ТБМ: значкоў, вымпелаў, шыльдаў і г.д. Змагаемся за аднаўленне старажытных назваў вуліц, плошчаў, гарадоў і вёсак, тапанімікі і за замацаванне беларускіх гістарычных этнаграфічных і культурных рэаліяў.

2. Другі з'езд мусіць разгледзець пытанні нармальных умоў для дзеяння Закона аб мовах. Трэба зрабіць гэтак, каб можна было праўна патрабаваць ад розных арганізацый і ўстаноў правільнага афармлення вывесак на беларускай мове, ад органаў масавай інфармацыі — выпуску газет і перадач па-беларуску. Пакуль што закон не працуе. Сітуацыя з кожным днём пагаршаецца. Прыкладам, на тэлебачанні ад большасці беларускіх перадач засталіся адно беларускія цітры.

*Заканчэнне на 4-й стар.*

# ПРАГА НЕЗАЛЕЖНАСЦІ...

Анатоль СІЛЯНКОЎ

**Мне яшчэ да забастовак даводзілася сустракацца са Станіславам Станіслававічам. І гаварыць у спакойнай абстаноўцы як раз пра тое, аб чым вяліся і вядуцца сёння спрэчкі на высокім мітынговым напале. Думаецца, выказаныя ім тады меркаванні, якія я запісаў на магнітафонную стужку, не будуць лішнімі ў вырашэнні канфлікта, што ўсхваляваў усю рэспубліку.**

Беларусь ускалыхнулі забастоўкі. Такога яшчэ не было — рабочыя выйшлі на вуліцы. «А чаго, чаго захацелася ім, пагарджаным век, ім, сляпым, глухім?» «Свет цэлы» абмяркоўвае пытанне: чаго дабіваюцца беларускія рабочыя?

На шырокіх гарадскіх плошчах, з экранаў тэлевізараў неаднойчы гучалі простыя, па-рабочаму бясхітрасныя патрабаванні: адмяніць падаткі, знізіць цэны, павысіць зарплату! І як вынік усяго гэтага — замяніць урад, даць рэспубліцы самастойнасць!..

«Нам не патрэбны ліпавы суверэнітэт!», «Дзе мы жывём — у Расіі ці ў Беларусі?», «Чаму наш урад даведваецца самым апошнім — і аб рэформе грошай, і аб павышэнні цэн?» Такія папрокі гучалі на сустрэчы забастовачнага камітэта з кіраўніцтвам рэспублікі, якая паказвалася па тэлебачанні.

Найбольшы цяжар, як бачылі гледачы, выпаў у той сустрэчы на Станіслава Станіслававіча Шушкевіча. Дый на рабочых мітынгах неаднойчы ўзнімаўся на трыбуну першы намеснік Старшыні Вярхоўнага Савета БССР. Палымяна гучалі яго словы ў абарону беларускага ўрада, прынятых ім законаў.

Хто б яшчэ пару гадоў назад мог падумаць, што лёс нашага «непарушнага» Саюза выкліча столькі спрэчак. Здаецца, апошнім часам уся краіна толькі тым і занята, што абмяркоўвае праблему, як яго захаваць.

А пачалося ўсё, безумоўна, з аб'яўлення Дэкларацый аб незалежнасці, прынятых саюзнымі рэспублікамі. Заявіла аб сваім суверэнітэце і Беларусь.

Праўда, мы і раней многа чулі прыгожых слоў пра нашу незалежнасць. Толькі вось не маглі ніяк уявіць, якая яна на самой справе — самастойнасць.

— Чым, на ваш погляд, апошні дакумент адрозніваецца ад такіх жа папярэдніх? — запытаў я Станіслава Станіслававіча.

— Перш за ўсё, я думаю, што такога дакумента не было,— адказаў ён.— Такога, як наша Дэкларацыя аб суверэнітэце Беларусі. Ён адрозніваецца ад ранейшых тым, што прыняты Вярхоўным Саветам рэспублікі, які абраны дэмакратычна. Усе дэпутаты ішлі да парламента са сваімі праграмамі, абяцаннямі выбаршчыкам. І вось цяпер яны, вывучыўшы сітуацыю, што склалася ў краіне, прынялі такую Дэкларацыю. Я лічыў і буду лічыць далей яе лепшым дакументам, які мы прынялі. Зразумела, што ў ёй выказаны наш намер: чаго мы хочам на Беларусі. Гэта не значыць, быццам ужо заўтра ў нас усё жаданае будзе... Напрыклад, што мы хочам быць бяз'ядзернай зонай, маем права на ўласныя ўзброеныя сілы, унутраныя войскі, органы дзяржаўнай бяспекі. Фармальна мы мелі права на гэта і раней. Фармальна. Але цяпер заявілі пра свой поўны суверэнітэт. Значыць, мы хочам заяўленае права мець на яве. І разумеем, што патрэбен нейкі пераходны перыяд...

У час дыялогу з членамі Мінскага камітэта гэтую думку Станіслаў Станіслававіч выказаў праз параўнанне: цяжкі вагон нельга зрушыць з месца на высокай хуткасці. Яму патрэбен разгон. Рабочым людзям гэта павінна быць асабліва добра зразумела.

Аднак якраз рабочыя і не хацелі пагадзіцца са сваім размоўцам. У процівагу іхнім меркаванням, выказаным пазней у кароткіх лозунгах на гарадской плошчы, С. С. Шушкевіч даводзіў: Дэкларацыю трэба падмацаваць адпаведнымі законамі. Яе апошні артыкул тлумачыць, як мы будзем рэалізоўваць гэтую Дэкларацыю: прыняццем Канстытуцыі і адпаведных законаў. Каб не было ніякага прававога нігілізму. Сёння зрабіць так, як напісана ў Дэкларацыі, па словах С. С. Шушкевіча, немагчыма. Таму што гэта прывядзе да анархіі ў рэспубліцы. Патрабуецца, заўважыў ён, паступовасць і паслядоўнасць. Прычым, і расцягваць працэс не варта, бо ўсё гэта можа згубіць сэнс.

— Я заўважыў,— гаварыў ён,— што ленінскі Дэкрэт аб зямлі фактычна не выкананы да гэтага часу. І вось праблема, як яго ажыццявіць. Зямлёй сяляне не валодаюць. Як і рабочыя фабрыкамі і заводамі.

— А Ленін гаварыў, што дэкрэты нашы служылі ў многім дзеля прапаганды,— заўважыў я. Мой размоўца сказаў:

— Прыняты намі дакумент — гэта нашы намеры, і мы іх будзем выконваць. Скажам, узняты пытанні аб вайсковай службе. Вярхоўны Савет стварае спецыяльную камісію. Мы разумеем, што калі раптам зробім самастойнымі свае ўзброеныя сілы, дык нічога добрага не атрымаецца... Мы павінны паслядоўна адкінуць усё, што нам перашкаджае.

Слухаючы гэтыя разважанні, мне, радавому грамадзяніну, было ўсё ж не зразумела: толькі атрымалі самастойнасць, а ўжо адразу пайшлі поўным ходам размовы пра Саюзны Дагавор. А дзе тая добраахвотнасць уступлення ў Саюз, пра якую ўрачыста аб'яўлялася з высокіх трыбун? Абгрунтоўваючы пазіцыю ўрада, адзін з яго кіраўнікоў у той гутарцы спаслаўся на два падыходы ў гэтым пытанні. Адзін з іх, маўляў, праявіўся ў Літве. Другі падыход такі: хай бы ўсё было, як і раней, толькі, можа, крышку палепшыць...

Як вырашаць свае пытанні, пэўна, больш бачна самім літоўцам. Але што адбываецца ў нас? Цяпер існуе такі тэрмін— агульная эканамічная прастора. У яе межах рэспубліка і вырашыла: гаспадарчай дзейнасцю нам трэба займацца па многіх пазіцыях сумесна з суседзямі, таму што мы неканкурэнтназдольныя на сусветным рынку. А разам можам лепей што-небудзь зрабіць. Але пры гэтым падкрэсліваецца: мы хочам быць самастойнымі і суверэннымі ў рамках Саюза, у рамках аб'яднання. Таму трэба дакладна вызначыць, што рэспубліка перадае, што дэлегуе ў Цэнтр.

Аднак ужо сёння ясна: многае з таго, на што прэтэндуе Цэнтр і што вельмі часта падтрымлівае Прэзідэнт краіны, рэспубліку задаволіць не можа. Ёй патрэбна значна большая самастойнасць. Бясспрэчнай, на думку С. С. Шушкевіча, здаецца неабходнасць аховы агульных граніц. Пэўна, не трэба ўзводзіць бар'еры паміж сабой. А вось нейкія таможныя граніцы пакуль, відаць, спатрэбяцца. Бо бывае і так, калі гаспадарка адных развіваецца за кошт прыніжэння эканамічнай самастойнасці іншых. Тут трэба падумаць. Ці ўзяць такое: рэспубліка захоча быць цывілізаванай краінай і мець сваё спадарожнікавае тэлебачанне. Наша, беларускае. Але яго не так проста зрабіць. Нават Еўропа аб'ядналася для гэтага — там разам склалі грошы і глядзяць сумесна многія праграмы тэлебачання. Мы гэта таксама павінны аб'яднаць. А магчыма, і энергетычную сістэму — яна ж у нас вялікая. Можна стварыць агульны кіруючы цэнтр. Гэта значыць, дэлегаваць нейкія функцыі аб'яднаным органам кіравання. Што ніяк не кранае нашу самастойнасць.

Думаю, мала хто захоча аспрэчыць гэтыя разважанні высокага кіраўніка. А вось яго падыход да выяўлення волі народа, які мне быў знаёмы па парламенцкіх дыскусіях, выклікаў у мяне сумненні. Таму я запытаў:

— А якая ваша думка наконт рэферэндуму?

— Я адзначаў у сваіх парламенцкіх выступленнях,— адказаў Станіслаў Станіслававіч,— што некаторыя пытанні лагічна вырашаць пры дапамозе рэферэндуму. Але хацеў бы адразу растлумачыць: я не ўпэўнены, што рэферэндум — гэта думка народа. Не ўпэўнены. Менавіта ва ўмовах цяперашняга стану грамадства.

І далей ён растлумачыў: у нас цяпер моцна адчуваецца ўплыў старой агітацыйнай сістэмы. У адносінах, напрыклад, да ўласнасці. Нас запалохалі, што прыватная маёмасць — гэта вялікае гора, ад яе вялікія беды. А цяпер многія глядзяць на свет: дзе ёсць прыватная маёмасць, там, аказваецца, людзі ў сярэднім лепей жывуць. І змагаюцца з сацыяльнай несправядлівасцю не горшым чынам. Дык ці не пара змяніць прыярытэты? Спачатку гаварылі: галоўнае — гэта класавае паняцце. М. С. Гарбачоў сказаў: ёсць яшчэ надкласавае... Ну, у свеце ўсе разумелі і раней — яно ёсць. А для нас гэта быў цуд, і мы тры гады да яго прызвычайваліся.

Калі нядаўна аб'явілі, што ў Л. Троцкага былі і нейкія станоўчыя ўчынкі, многія павінны былі прывыкаць да гэтага. А цяпер ідзе асваенне прыватнай маёмасці, перыяд адаптацыі да яе. Так і па іншых праблемах. Уключаючы рэферэндум... У чыстым выглядзе народную думку з дапамогай рэферэндуму вызначыць цяжка. Вельмі цяжка.

— А вось Вярхоўны Савет СССР,— напомніў я,— прыняў нават Закон аб рэферэндуме...

— Закон аб рэферэндуме павінен быць,— сказаў С. С. Шушкевіч.— Гэта адно другому не перашкаджае. Як і рэферэндум таксама павінен быць пры вырашэнні некаторых пытанняў. Напрыклад, калі нейкая група настойліва падымае пытанне аб тым, каб мы не былі ў складзе Савецкага Саюза, можна вынесці такое пытанне на рэферэндум.

Ён яшчэ раз паўтарыў, што выступае за Беларусь у складзе Саюза, але не таго Саюза, які быў дагэтуль. Ён — за новы Саюзны Дагавор. І каб усе пытанні ў гэтым Саюзе вырашаліся на падставе кансенсусу. Калі рэспубліка не згодна, яе ніхто — нават чатырнаццаць іншых — не павінен прымусіць рабіць тое, з чым яна не згодна.

Тэарэтычна такія меркаванні слушныя. А што ў рэальным жыцці? Гаворачы пра самастойнасць Беларусі, кіраўнікі ўрада ў той жа час паўтараюць усё тое, што дыктуе Цэнтр. Вось і праграму пераходу да рыначнай эканомікі бяруць у тым выглядзе, які прапанавалі з Масквы.

— Ці ў нашай праграме ёсць нейкія адрозненні ад саюзнай? — запытаў я С. С. Шушкевіча. І адразу заўважыў незадаволенасць на ягоным твары.

— Ваша пытанне некарэктнае, — рашуча адказаў ён. Затым растлумачыў: распрацаваная беларускім урадам праграма, на яго думку, карэнным чынам адрозніваецца ад маскоўскай. Гэта і ў адносінах да зямлі, і па банках, і па знешнеэканамічных сувязях.

І Расія, і іншыя рэспублікі заявілі: Цэнтр хоча такой праграмы, каб многа-многа кіраўнікоў у Маскве забяспечылі сабе спакойнае і дабрабытнае жыццё на многія гады. Але каму патрэбен іх дабрабыт за чужы кошт?

Таму, як растлумачыў мой субяседнік, былі сфармуляваны іншыя падыходы. І тое, што адбылося затым на Вярхоўным Савеце СССР — гэта фактычна рэагаванне на пазіцыі рэспублік. Праграма пераходу да рынку дэфармавалася. У ёй улічаны прапановы рэспублік, у тым ліку і Беларусі, многа зроблена крокаў насустрач.

— А вось у варыянце ўрада Цэнтра іх нешта не дужа бачна,— падзяліўся я сваімі назіраннямі, — ды і адразу пасля прыняцця Асноўных напрамкаў па стабілізацыі народнай гаспадаркі і пераходу да рыначнай эканомікі на сустрэчы з журналістамі М. І. Рыжкоў, помніцца, сказаў: павінен быць моцны Цэнтр, «власть должна властвовать».

— Каб шэф Саюзнага ўрада думаў інакш, альбо даваў іншыя інтэрв'ю, дык я б хутчэй здзівіўся, чым гэтай заяве,— усміхнуўся мой субяседнік.

Станіслаў Станіслававіч звярнуў увагу на адносіны Захаду да нашай рэспублікі. Да нас там, як ён сказаў, добра ставяцца і разумеюць нашу пазіцыю. Разумеюць, дарэчы, і нашу Дэкларацыю. Толькі пры адной умове. Што мы прытрымліваемся пэўных этапаў пераходу да поўнай самастойнасці.

Рэспубліка, безумоўна, хоча гэтага дамагчыся хутчэй. Але абставіны не дазваляюць ісці вялікімі крокамі. Такая палітычная і эканамічная сітуацыя. Дарэчы, заўважае С. С. Шушкевіч, тут ізноў, як кажуць, інтэграцыя інтэграцыяй, але грошы трэба лічыць асобна. Мы ж цяпер у вельмі цяжкім становішчы. У нас у значнай ступені паралізаваны знешнія сувязі. Бо не распараджаемся тымі грашыма, якія зарабляем самі. Мы павінны спачатку аддаць іх у Цэнтр. Такая цяпер банкаўская сістэма.

Адсюль вынікаюць тыя крокі, якія трэба зрабіць у напрамку да сапраўднай самастойнасці, якія нас будуць збліжаць з Еўропай. Мы самі, без «святога» дазволу з Цэнтра, будзем вырашаць пытанні з нашымі суседзямі. Ну навошта пытацца, як усталёўваць адносіны з Польшчай? Хіба мы яе не разумеем? Яна нас не разумее?

У той жа час у разважаннях С. С. Шушкевіча адчуваўся пэўны акадэмізм, ва ўсякім разе я не ўлавіў адчування ім эмацыянальнага настрою насельніцтва, і ў першую чаргу найбольш актыўнай яе часткі. А гэта ж таксама рэаліі дня, што некаторыя з рабочых у сваім рашучым парыве дамагчыся свайго гатовы легчы на рэйкі перад цягніком, як у Оршы. Чалавек не вечны, і шэсць гадоў размоў пра перабудову для яго — немалы кавалак жыцця. Людзі прагнуць канкрэтных сацыяльных змен. Дэкларатыўны суверэнітэт яны пачынаюць успрымаць як насмешку над іх спадзяваннямі нарэшце звацца людзьмі.

# ОХ, ПРЫНЦЫПЫ!..

## *(ПРА СТАРЭЧУЮ ХВАРОБУ ГЛУХАТЫ Ў СУЧАСНЫМ ПАРЛАМЕНЦКІМ РУХУ)*

Адданасць прынцыпам навідавоку. Пабываўшы на сесіі Вярхоўнага Савета, я ўвачавідку ўпэўніўся: сякія-такія абраннікі хаця і не вылучаліся ад інвалідных таварыстваў, яўна недачуваюць. І бачаць яны не зусім добра. У парламенце наогул сітуацыя непаразумеласці. Амаль як у анекдоце (на жаль, з празмерна жорсткім гумарам), дзе, прыкладам, З. С. кажа: «Нешта трэба з экалогіяй рабіць, лес бо сохне, хутка не будзе на чым павесіцца», а старшыня сваё: «Дзякуй! Садзіцеся!»

Словам, ніхто нікога не слухае і не жадае гэтага рабіць. Адно цікава. Як толькі выходзіць да мікрафона хтосьці з парламенцкай апазіцыі, у зале пачынаюцца пошум, грукат, тупаценне, крыкі: «Адключыце мікрафон!»

Урэшце гэта дарэчы. Ёсць прычына правесці невялічкі дослед. Гэта нескладана зрабіць. У зале пасяджэнняў маецца гаўбец для гасцей, з якога можна бачыць усіх прысутных. Адтуль добра відаць: папершае, у зале спрэс амаль адныя мужыкі. Шмат сівых. Процьма лысых. Словам, людзі дарослыя. Далей, у парламенцкай апазіцыі збольшага ўсе нейкія худыя, кашчавыя. Хаця трапляюцца і ніштаватыя паасобнікі. Ва ўсіх апазіцыянераў нейкі падспудны голад у вачах. У нашых, у тых, хто зазвычай не жадае слухаць апазіцыю і крычыць «Выключыце мікрафон!», больш прывабны выгляд. На твары сыць. Шчокі ружовыя і поўныя. Сядзяць, жыváткі падаставаўшы. Упэўнена гэтак. Я ажно замілаваўся. Выходзіць да мікрафона, прыкладам, які-небудзь апазіцыянер Голубеў — яны адразу, бы пчолкі, зумканне ладзяць. З гуду пачынаюць слоўцы вылётаць. Крытычныя стрэлы. Пратэст. Нязгода. І — каронны нумар: «Выключыце мікрафон!» А Голубеў усёроўна да мікрафона лезе. Неўтаймоўны, адно слова. Не разумею я яго. Ну, чаго, чаго, калі гэта таварышам не даспадобы? Гэта ж не ў Амерыцы выступаць. У нашым парламенце мікрафоны асаблівыя, сацыялістычныя. Не для розных там падрыўных прамоў.

Але Голубеў натурысты. Нягледзячы на справядлівы гнеў дэпутацкіх масаў, гаворыць сабе. Пра замежныя інвестыцыі (гэта ў парламенце закон пра іх захацелі прыняць). І вось тут я зусім не падтрымліваю старшыню. Чаму б, сапраўды, мікрафон і не выключыць! Выключылі ж, калі дэпутат Грыбанаў пра гэтыя клятыя інвестыцыі казаў. Кажа, маўляў, ніводнага долара ў рэспубліцы не будзе, пакуль у ёй існуе камуністычны запаведнік. А ў прэзідыуме кнопачку пальчыкам — тыц! А без мікрафона хто пачуе? Ды і магутная большасць гучным уладным галасам яго ў дадатак супакоіла.

А лепш за ўсё мікрафон увогуле не ўключаць. Як у выпадку з дэпутатам Новікам. Ён просіцца выступіць, а мікрафон нямы. Ён просіцца, а на яго нуль увагі. Ён просіцца, а слова даюць кансультанту. Небарака чамусьці ўзлаваўся ды з залы пайшоў. Што ж зробіш: не ўсе яшчэ ў нашым грамадстве ўмеюць сябе паводзіць. І Новік той таксама. Бач ты яго, у мікрафон пагаварыць хацеў!

Што ж датычыць прынцыпаў, дык тут трэба памятаць: празмернае ўляганне ў іх дрэнна ўплывае на слых, зрок, духоўны стан. Затое спрэчкі робяцца больш цікавыя. Прыкладам, дужа цікава пачуць прынцыповую гаворку наконт таго, пахнуць селядцы ці смярдзяць? Здаецца, ужо час на яе прыспеў. Прынамсі, спадзяюся, што хутка гэтая тэма знойдзе грунтоўнае адлюстраванне ў рабоце парламента.

Л. ВАШКО.

*14—15 ЧЭРВЕНЯ Ў МІНСКУ — ДРУГІ З'ЕЗД РЭСПУБЛІКАНСКАГА ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ*

# ЗДАБЫТКІ І СПАДЗЯВАННІ

*Заканчэнне. Пачатак на 2-й стар.*

### Леанід ЛЫЧ, старшыня камісіі па тапаніміцы

*1. Нашая камісія вырашыла сканцэнтраваць усю сваю дзейнасць пры пастаяннай Камісіі Вярхоўнага Савета БССР па адукацыі і культуры. Вярхоўны Савет даў на тое згоду. Права лінгвістычнага разбору назваў населеных пунктаў мы пакідаем за камісіяй, створанай пры інстытуце моваазнаўства. Сабе ж на мэце ставім вяртанне народу ягонай тапанімічнай спадчыны. Зараз вядзём падрыхтоўку спісаў населеных пунктаў, старыя назвы якіх былі скасаваныя. Будзем патрабаваць ад Вярхоўнага Савета рэспублікі вяртання гэтых назваў.*

*2. Другі з'езд ТБМ імя Францішка Скарыны мусіць паклапаціцца пра пашырэнне сваіх шэрагаў, актыўнасць першасных арганізацый. Трэба далучыць да работы як мага больш моладзі, студэнтаў, школьнікаў старэйшых класаў, выпрацаваць такую лінію, у выніку якой у кожным раёне рэспублікі была б раённая рада ТБМ.*

### Уладзімір АРЛОЎ, старшыня камісіі па выпрацоўцы тэрміналогіі

1. Пад грыфам тэрміналагічнай камісіі ТБМ выйшаў першы слоўнік «Грыбы», падрыхтаваны Галінай Сяржанінай. Спадзяюся, што ў хуткім часе пабачыць свет слоўнік турыстычных і урбаністычных тэрмінаў, які рыхтуе Вінцук Вячорка, а таксама слоўнік лесагаспадарчых тэрмінаў (Алесь Гуркоў). Ідзе праца над слоўнікамі па матэматыцы, фізіцы, праграмаванню, медыцыне... Карыстаючыся выпадкам, хачу нагадаць, што каардынуе дзейнасць тэрміналагічнай камісіі спадар Алесь Гуркоў (тэлефон 34-42-78).

2. Чакаю выступлення на з'ездзе Вячаслава Кебіча, які павінен сказаць пра тое, як урад рэспублікі збіраецца выконваць Закон аб мовах і ці збіраецца ён рабіць гэта наогул.

## Ахвяравалі на Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны

Суполка ТБМ у Нью-Йорку — 1000 рублёў
Спадар айцец Надсан (Вялікабрытанія) — 50 фунтаў і 65 долараў
Спадар Л. Б. (рэспубліка Беларусь) — 50 долараў
Спадар Антось Даніловіч (Золак) з ЗША — 500 долараў
Спадар Пётр Манкоўскі (ЗША) — 100 долараў

**У суполках ТБМ**

## ЗРОБЛЕНАЕ І МАГЧЫМАСЦІ

**З чым сябры Таварыства беларускай мовы Савецкага раёна г. Мінска прыйшлі да Другога з'езда ТБМ? Назаву хаця б самае значнае са зробленага. Праведзена раённае свята, прысвечанае 500-годдзю з дня нараджэння Ф. Скарыны. У 130-й школе арганізавалі беларускамоўную навагоднюю елку для дзяцей 1—3 класаў. Правесці гэтыя святы дапамаглі сябры клуба «Бацькаўшчына», які дзейнічае пры 23-й школе раёна. Вырашылі стварыць вячэрні ліцэй, дзе б жадаючыя маглі набываць веды па гісторыі, культуры Беларусі, вывучаць родную мову. А атрымаўся Беларускі гуманітарны адукацыйна-культурны цэнтр, які заняўся распрацоўкай альтэрнатыўных праграм і методык навучання і выхавання беларусаў — патрыётаў сваёй бацькаўшчыны. Пры цэнтры арганізуецца выдавецтва, будзе свой тэлецэнтр. Хаця яму няма яшчэ і года, але пры ім створана ўжо некалькі ліцэяў.**

**Радай ТБМ былі праведзены 2 канферэнцыі. Першая закранала праблему беларускамоўнага дашкольнага выхавання і навучання ў пачатковай школе. Загадчыкі дзіцячых садкоў і дырэктары школ раёна абмяркоўвалі пераход выхавання і навучання на беларускую мову, абменьваліся вопытам. Закранапася пытанне пераемнасці паміж беларускамоўнымі групамі садкоў і школамі. Другая канферэнцыя была прысвечана выкладанню беларускай мовы ў вышэйшых і сярэдніх навучальных установах раёна. У актавай зале Беларускай палітэхнічнай акадэміі сабраліся выкладчыкі і кіраўнікі ВНУ і тэхнікумаў. Шмат было людзей, шчыра зацікаўленых лёсам нашай мовы, былі і тыя, якія ставіліся з недаверам да беларускага адраджэння, сумняваліся ў мэтазгоднасці пераводу навучальнага працэсу на беларускую мову.**

**За час існавання рады ТБМ у Савецкім раёне стварылася больш за дваццаць суполак ў навучальных і іншых установах, на прадпрыемствах. Ёсць нават суполка, якая аб'ядноўвае сваіх сяброў па месцы жыхарства, — «Халяўшчына». Нядаўна зарэгістравалася пры нашай радзе і калектыўная сябрына «Выбранецкія шыхты».**

**Намецілі мы план дзейнасці на бліжэйшы час. Увосень мяркуецца правесці раённае свята, прысвечанае 100-годдзю з дня нараджэння М. Багдановіча. Рада вырашыла падпісаць найбольш актыўных юных прыхільнікаў і сяброў ТБМ на газету «Наша слова». Увосень думаем правесці вечарыну, на якой урачыста ўручым ім падпіску і пасведчанні сяброў ТБМ. Думаем аб стварэнні беларускай гімназіі ў раёне. Падтрымана прапанова спадара Шастаковіча, намесніка старшыні нашай рады, кіраўніка суполкі ТБМ пры Беларускай палітэхнічнай акадэміі стварыць пры акадэміі кафедру беларускай мовы і літаратуры з адпаведнай колькасцю вучэбных гадзін і абавязковым кантролем навучання ў выглядзе заліку альбо іспытаў.**

**Самакрытычна падыходзячы да сваёй дзейнасці, адзначым, што трэба лепей наладзіць сувязь паміж раённай радай і першаснымі суполкамі. Асобныя суполкі актыўнай дзейнасцю сябе не праявілі, абмежаваўшыся зборам складак. Чамусьці наша рада працуе ізалявана ад іншых мінскіх рад. Мы нават не заўсёды маем інфармацыю аб тым, што дзеецца ў нашых суседзяў. А няблага было б збірацца найбольш актыўным прадстаўнікам, дзяліцца творчымі набыткамі. Дадам яшчэ, што на справаздачна-выбарчай канферэнцыі рады Савецкага раёна выказваліся пажаданні і Рэспубліканскай Радзе лепш падтрымліваць сувязь з суполкамі, наогул дзейнічаць больш актыўна і творча.**

Ірына КОВАЛЬ, сябра рады ТБМ Савецкага раёна.

г. Мінск.

# «Наша слова» ідзе па свеце!

**Газета «Наша слова» зусім нядаўна адзначыла першую гадавіну свайго існавання, але ўжо мае чытачоў нават далёка за межамі Беларусі. Пра гэта сведчаць і ўдзельнікі першага сусветнага Кангрэса беларусістаў, які адбыўся ў канцы мая ў Мінску. Наш карэспандэнт папрасіў замежных гасцей — доктара Аляксандра Баршчэўскага, загадчыка кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта; прафесара Карлавага універсітэта ў Празе Вацлава Жыдліцкага; прафесара Карла Гутшміта з Берлінскага універсітэта; доктара Янку Запрудніка — рэдактара газеты «Беларус» (Нью-Йорк) і доктара Вітаўта Кіпеля — дырэктара Беларускага інстытута літаратуры і мастацтва (Нью-Йорк) адказаць на пытанне: Што Вы можаце сказаць пра «Наша слова» і якія ў Вас будуць пажаданні для газеты?**

**АЛЯКСАНДР БАРШЧЭЎСКІ (Польшча):** Я вельмі паважаю газету «Наша слова». Гэта ж паслядоўна беларуская, нацыянальная газета, вельмі жывая, змяшчае цікавыя артыкулы, напісаныя душою і сэрцам. Яна нам вельмі патрэбная. Нідзе, ні ў адной беларускай газеце не знойдзеш такой колькасці гатовых тэкстаў, якія вельмі прыдатныя ў дыдактычным працэсе. Так што гэтая газета цікавая менавіта ў дыдактычным аспекце. І яшчэ хачу сказаць як паэт і беларускі дзеяч, што «Наша слова», папершае, выходзіць на высокім інтэлектуальным узроўні і, падругое, газета ўтрымлівае не толькі цікавыя, але і кароткія матэрыялы. Матэрыял гістарычны зраўнаважаны ў ёй з матэрыялам сучасным.

**КАРЛ ГУТШМІТ (Германія):** Я ведаю гэтае выданне і вельмі ім цікаўлюся. Маю ўсе выпускі мінулага года і купіў усе з гэтага. Газета вельмі патрэбная, бо ў ёй разглядаюцца пытанні моўнай палітыкі ў Беларусі, пытанні правапісу і вымаўлення беларускай мовы. Калі мець на ўвазе стан моўнай сітуацыі на Беларусі, то такія выданні вельмі і вельмі патрэбныя менавіта цяпер.

**ВАЦЛАЎ ЖЫДЛІЦКІ (Чэхаславакія):** Я хачу павіншаваць Вас з такой газетай. Чытаю ўсе нумары. І прапаную Вам змяшчаць больш матэрыялаў, якія давалі б звесткі пра вывучэнне беларускай мовы ў свеце, расказвалі б пра развіццё беларусістыкі.

**ЯНКА ЗАПРАДУНІК (ЗША):** «Наша слова» чытаюць у Злучаных Штатах Амерыкі, яно разыходзіцца па цэлым свеце. «Наша слова» — вельмі патрэбная газета, яна робіць добрую справу. Мы ўсімі сіламі, маральна і фінансава яе падтрымліваем і далей будзем падтрымліваць, а тым, хто яе робіць, дзякуем і жадаем новых найлепшых удач.

**ВІТАЎТ КІПЕЛЬ (ЗША):** З цікавасцю чытаю Вашу газету, хачу, каб яна ўвесь час паляпшалася, прываблівала як мага больш новых чытачоў. Хоць у Вашай газеце часам яшчэ здараюцца недакладнасці (напрыклад, у адным з леташніх нумароў былі няслушна пададзены гады жыцця Ул. Дубоўкі), але яна паступова выходзіць на высокі маральна-інтэлектуальны ўзровень. Зычу «Нашаму слову» далейшых поспехаў.

Інтэрвью правяла Л. БАРШЧЭЎСКАЯ.

*ДУМКА САЦЫЁЛАГА*

## ЯК СЦЭНА ЖЫЦЦЯ...

Дзіця вучыцца ў дарослых. Спачатку назірае за іх дзеяннямі, потым спрабуе іх паўтараць. У падлеткаў шлях пераймання больш складаны, тут пачынаецца працэс сатворчасці, прыстасавання да жыццёвых абставін, прымяненне назапашанага вопыту, у тым ліку духоўнага. Прычым амаль усё пачынаецца з гульні. Гульня часта знешне непрыкметна перарастае ў жыццё. Нездарма існуе выраз: жыццё — гэта таксама тэатр.

Так, менавіта тэатр — дзея на сцэне, гульня ў жыццё, калі яна арганізавана разумна і дастаткова таленавіта,— дапамагае нават многім дарослым людзям лепш разумець навакольны свет, сваю сацыяльную ролю ў ім, карацей — быць грамадзянінам. Дык што казаць пра дзяцей, якім сама прырода дала такую цудоўную магчымасць: праз гульню пазнаць законы жыцця. Заўважана таксама, што менавіта тэатр, гэта «канцэнтраваная сцэна рэчаіснасці» ў значна большай ступені, чым аднамерная плоскасць кіна- ці тэлеэкрана, аказвае ўздзеянне на гледача, які становіцца сведкам і саўдзельнікам падзей, што разгортваюцца на яго вачах. Ён бачыць людзей на сцэне, успрымае іх прысутнасць. Лепш пераймае ён і роднае слова, што так немалаважна зараз, калі народ робіць намаганні, каб вярнуць да паўнацэннага жыцця сваю нацыянальную мову.

У сувязі са сказаным выклікае трывогу тэндэнцыя апошняга часу да змяншэння ў рэспубліцы колькасці дзіцячых аматарскіх драмгурткоў, студыяў, спробы ўнесці ў гэтую справу дух камерцыі. Ні ў адной цывілізаванай краіне так не робіцца. Бо там ёсць разуменне стратэгічнай неабходнасці гэтых «сцэн жыцця» для нармальнага выхавання новых пакаленняў грамадзян краіны.

А як у такіх умовах адносяцца да сцэнічнага мастацтва падлеткі нашай рэспублікі? Як сёння іх выхоўвае тэатр? Супрацоўнікамі Акадэміі навук БССР было праведзена апытванне сярод школьнікаў, якія наведвалі самыя прэстыжныя сталічныя тэатры,— Беларускі акадэмічны імя Я. Купалы і Рускі імя М. Горкага.

Асаблівая ўвага звярталася на кантынгент юных гледачоў з сельскай мясцовасці. Аказалася, у школах, дзе яны вучацца, мастацтву тэатра надаецца вельмі мала ўвагі. Частка настаўнікаў лічыць тэатр для вясковых дзяцей лішнім, іншыя спасылаюцца на недахоп сродкаў.

На жаль, недаацэнка тэатраў характэрна і для многіх гарадскіх школ. 28 працэнтаў апытаных школьнікаў мелі ўяўленне толькі аб адным-двух тэатрах. Галоўным чынам — з рэпертуару Беларускага купалаўскага і Тэатра музычнай камедыі. 24 працэнты сказалі, што яны цікавяцца пастаноўкамі беларускіх і гастралюючых тэатраў.

Аб навінах сцэнічнага мастацтва даведваюцца з размоў дарослых дома, на вуліцы, з публікацый у газетах, з расказаў сяброў і іншых выпадковых крыніц інфармацыі. 32 працэнты сказалі, што ў тэатры бываюць 3—4 разы ў год, але ім не ўсё зразумела і не ўсё падабаецца. Ім цікавей, калі пра тэатр распавядаюць настаўнікі ў школе, што здараецца рэдка і эпізадычна. 16 працэнтаў сказалі, што хацелі б аб тэатры ведаць больш. Яны жадаюць праз пастаноўкі лепш пазнаёміцца з культурай Беларусі, яе гісторыяй, літаратурай, моўнай скарбніцай. Аднак на спектаклях бываюць адзін раз у год, а то і радзей. Гэта ў асноўным школьнікі з правінцыі.

Амаль 70 працэнтаў апытаных сказалі, што адрадзіць беларускія нацыянальныя абрады, звычаі, святы і самую мову лепш за ўсё праз тэатр. На другое месца ставілі кіно, на трэцяе — друк.

Думаецца, што неабходна ўжо зараз карэкціраваць расклад школьных заняткаў на новы навучальны год, не кажучы ўжо пра пазакласную работу з дзецьмі. Дзіўнымі здаюцца заявы кіраўніцтва Рэспубліканскага педагагічнага таварыства і выкладчыкаў інстытутаў удасканальвання настаўнікаў аб змяншэнні нагрузкі на школьнікаў менавіта за кошт змяншэння часу, што адводзіцца на культасветработу, у тым ліку на тэатр. Дарэчы, вопыт некаторых школ (у тым ліку мінскай сярэдняй № 130) сведчыць пра іншае.

Для параўнання: у школах Японіі, Балгарыі, а таксама Манголіі нават оперныя і балетныя спектаклі (не кажучы аб драматычных) на працягу апошніх дзесяці гадоў пастаянна ўключаюцца ў школьныя праграмы як абавязковы прадмет.

**Сяргей АНУПРЫЕНКА,**
**кандыдат філасофскіх навук.**

## КОЖНАМУ — СВАЁ

30 мая ў Доме літаратара адбылася творчая вечарына паэта-барда Сержука Сокалава-Воюша. На працягу амаль двух гадзін прысутныя мелі магчымасць задаць Сержуку пытанні, паслухаць яго песні, многія з якіх сталі папулярнымі не толькі ў Беларусі, а ва ўсім свеце, дзе жывуць беларусы. На заключэнне паэт-бард выканаў новы твор і абяцаў, што праз год пазнаёміць усіх са сваёй новай праграмай.

Некалькі дзён раней, у добрае надвор'е, на стадыёне «Дынама» «Ласкавы май» даў чатыры дабрачынныя канцэрты. На першым канцэрце дзве дзяўчыны, вялікія прыхільніцы саліста Юры Шатунова, згубілі прытомнасць і калі іх прывялі ў ранейшы стан, яны амаль разам прастагналі: «Ю-у-ра-чка...» На вечарыне Сержука Сокалава-Воюша ніхто прытомнасці не губляў, але час ад часу чуліся выкрыкі: «Жыве Беларусь! Жыве!!» Што ж, у кожнага свае куміры. У каго — Юрачка, а ў каго — вольная Беларусь.

У саліста «Ласкавага мая» Андрэя Разіна сярод творчых планаў ёсць і выкананне галоўнай ролі ў двухсерыйным мастацкім кінафільме, які збіраюцца зняць беларускія кінематаграфісты. Андрэю Разіну веданне беларускай мовы, якую ён і не ведае, не спатрэбіцца, бо і беларускія кінематаграфісты яе не ведаюць. Іншым разам узнікае пытанне: а наогул,— а што гэта такое — «Беларусьфільм»?

**Віктар ШНІП.**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ**

Рэдактар Эрнэст Ялугін.
Сябры калегіі: Янка Брыль, Ніл Гілевіч, Уладзімір Дамашэвіч, Алесь Камароўскі, Анатоль Клышка, Ігар Лапцёнак, Генадзь Мацур, Зьміцер Санько, Мікола Супрановіч, Алесь Траяноўскі, Генадзь Тумаш, Яўген Цумараў, Генадзь Цыхун.

Наш адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13.
Тэлефон рэдакцыі: 33-17-83.

Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак.
Пункт гледжання аўтара неабавязкова можа адпавядаць меркаванню рэдакцыі.
Рукапісы рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае.

МВПА імя Якуба Коласа.
Мінская паліграфічная фабрыка «Чырвоная Зорка».
Наклад 6.814. паасобнікаў. Заказ 2446. Індэкс 74975.